


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

7 кастрычніка 2016 года №41 **(1119)**

## Фільм, дзе галоўны герой – былы віляйчанін, вылучаны на "Оскар"

старонка 2

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу – запоўні бланк на новы тур конкурсу

старонка 21

## Лёгкія спосабы для лянівых, каб заняцца целам

старонка 22

## Новы конкурс ад "РГ": атрымай смартфон за адно фота

старонка 23

# Ці павінны школьнікаў адпраўляць на бульбу?

старонка 4

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



У ролі Уладзіслава Страмінскага выступіў вядомы польскі акцёр Багуслаў Лінда.

Фота Anna Wloch/Akson Studio.

# Фільм, дзе галоўны герой – былы віляйчанін, вылучаны на “Оскар”

**Фільм славутага рэжысёра Анджэя Вайды “Павідокі” (“Powidoki”) стаў польскім кандыдатам на “Оскар” як найлепшы неангламоўны фільм.**

Такое рашэнне прыняла нацыянальная камісія па “Оскару” і Польскі інстытут кінамастацтва ў часе нядаўняга нацыянальнага фестывалю ў Гдыні.

Стужка расказвае пра складаны лёс аднаго з самых вядомых сучасных мастакоў і тэарэтыкаў мастацтва, два перыяды жыцця якога звязаныя з Вілейкай, дзе ён жыў і працаваў. У галоўнай ролі – зорка польскага кінематографа **Багуслаў Лінда**.

Сусветная прэм'ера фільма адбылася 10 верасня на міжнародным кінафестывалі ў Таронта ў секцыі “Майстры”. У кастрычніку новы фільм пакажуць на фестывалі ў Рыме, Рыа і карэйскім Бусане.

**Уладзіслаў Страмінскі** быў адным з лідараў міжваеннага авангарднага мастацтва ў Польшчы, стваральнікам тэорыі ўнізму, тэарэтыкам мастацтва, выкладчыкам. Разам з жонкай **Кацярынай Кобра** і іншымі паплечнікамі арганізаваў калекцыю сучаснага мастацтва, у якую свае творы дасылалі самыя вядомыя мастакі Еўропы таго часу.

### Страмінскі і Вілейка

Два складаныя перыяды яго жыцця звязаныя з нашай Вілейкай. Інвалід Першай сусветнай вайны, які страціў на фронце руку, нагу, вока, выкладаў у 1923-1924 гадах мастацтва ў вілейскай гімназіі імя Сянкевіча. Сюды ж вяртаецца ён з Лодзі са сваім каханнем – жонкай Кацярынай і дачушкай Нікай у самым пачатку Другой сусветнай вайны, 10 верасня 1939 года.

Страмінскія выбралі Вілейку таму, што тут жылі брат і маці Уладзіслава.

Тут з'яўляецца першы з ваенных цыклаў малюнкаў мастака “Заходняя Беларусь”.

Ніка згадвае, як мама вазіла траскучымі маразамі аднаногага бацьку ў саначках на ўрокі ў школу, пра іншыя складанасці жыцця:

*“Мы жылі ў прымітыўных умовах. Каб справіць фізіялагічныя патрэбы ці прынесці вады, трэба было хадзіць на двор. У пакоі бліжэй да кухоннай пліты, адным бокам амаль дакранаючыся да ўвахода, стаяў мой дзіцячы ложачак. Далей пасцель маёй мамы, а прысцяне, насупраць дзвярэй, што вядуць у сені, – ложак бацькі. Прыткнуты да яго кульгавы стол даўжэйшым бокам кранаўся акна. Менавіта тут, адвярнуўшыся ад пакоя, сядзеў бацька, пакрываючы аркушы паперы нейкімі незразумелымі мне рысункамі. Такім чынам і паўстаў цыкл “Заходняя Беларусь”. Напэўна, за гэтым самым сталом бацька таксама займаўся праектаваннем дэкарацый, пра якія пазней напісаў Юльян Пшыбась: “…ён адзін у тым найгоршым для мастацтва часе мог даць прыклад жывапісу, які патрэбны быў прапагандзе. Пісьменнік Ежы Путрамант, які ў той час таксама жыў і працаваў у Вілейцы, згадвае ў сваім “Паўстагоддзі”, як Страмінскі ператварыў на свята 1 мая 1940 года беднае шэрае мястэчка Вілейку ў каляровую феерыю, у тэатр прасторавых жывапісных кампазіцый. Бо тады ўлады развязалі яму рукі ў аздабленні горада”.*

І ўсё ж у 1940 годзе сям'я Страмінскіх зноў мяняе месца жыхарства, вяртаючыся ў Лодзь.

Толькі на наступны пасля стогадовага юбілею год, 1994, Ніка Страмінская зноў прыехала ў Беларусь, у Вілейку. Наведала таксама радзіму бацькі Мінск.

– Для яе было вельмі важна пабываць тут, у нас, – расказала “Рэгіянальнай газеце” старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава**, якая ў той час стала для Нікі гідам па Вілейцы. Яна хацела пабачыць мясціны, дзе нарадзіліся адны з самых важных твораў у жыцці бацькі.

Памерла Ніка ў 2001 годзе ў Лодзі.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Што такое “Павідокі”?**
Павідокі (Powidoki), літаральна “паслявобраз”, вобраз, які застаецца ў вачах. Успомніце дзіцячую забаву глядзець на сонца і плямы, якія бачылі вы пасля гэтага перад сабой, заплюшчыўшы вочы. Упершыню гэта слова як мастацкі тэрмін увёў у абарот Страмінскі. Сэнс “паслявобразаў” можна адчуць у серыі яго карцін “Заходняя Беларусь”, створанай у Вілейцы ў 1939-1940 гадах.

## Фрагмент з фільма “Павідокі”

**Студэнтка з Варшавы Ганна прыязджае на пленэр студэнтаў Лодзінскай акадэміі мастацтваў, каб павучыцца ў прафесара Страмінскага.**

– А дзе тут прафесар Страмінскі? – пытаецца ў маладой пары з мальбертам ля падножжа ўзгорка.

– Страмінскі? А вось там, – яны паказалі на сілуэт аднаногага, нібы самотнага, чалавека на міліцы ўдалечыні. – Праз момант ён тут будзе.

– А як ён сюды патрапіць?

– Зараз пабачыце. – Засмяяліся і загукалі прафесара.

Аднаногі, аднарукі чалавек раптам кладзецца на зямлю і, абдымаючы міліцу, коціцца з гары, да ног суразмоўцаў.

За ім вясёлай гурбой са смехам сыпанула зверху такім самым чынам купа студэнтаў.

Гэта кадры з трэйлера – рэкламнага роліка “Павідокаў”

Студэнты, расказваюць тыя, хто яго памятае, абагаўлялі Страмінскага. Не пакідалі да апошніх, найбольш драматычных, дзён яго жыцця.

Фільм расказвае аб паваенным часе, дакладна 1948 – 1952 гадах, калі Страмінскі і Кобра ўжо не былі разам. Тады авангарднае мастацтва трапляе ў няміласць да польскіх сацыялістычных улад, якія пераследавалі Страмінскага да апошніх дзён жыцця. У ролі Нікі выступае маладая польская актрыса **Браніслава Замахоўская**.

На экраны польскіх кінатэатраў гэта карціна выйдзе 13 студзеня 2017 года, у іншых краінах – 3 сакавіка.

# Значыць, будзем наведваць кватэры ў ботах і касках

МАЛАДЗЕЧНА

**Спрэчка вакол абмеркавання кірзавых ботаў, з-за адсутнасці якіх цяжкую траўму атрымала супрацоўніца маладзечанскага водаканала, працягваецца.**

Работнік "Маладзечнаводаканала" лічыць, што павінна быць абгрунтаванне, для чаго насіць спецсродкі – каску ці кірзавыя боты. Фота inside.sjcoe.org.

У сённяшнім нумары газеты мы публікуем пазіцыю "Маладзечнаводаканала".

Начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Томашаў** у мінулым нумары "РГ" фактычна абвінавацію "Маладзечнаводаканал" у няшчасным выпадку з кантралёрам. Нагадаю, што ў лютым работніца атрымала траўму сцягна на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне, калі заносіла рабочыя дакументы ў райвыканкам.

Начальнік інспекцыі лічыць, што прадпрыемства магло замяніць "кірзачы" больш элегантным абуткам. Ну так, маглі абуць у валёнкі з галошамі. І яна ці ў кірзачах, ці ў валёнках павінна была б праверыць работу вадалічыльнікаў у 30 кватэрах. Яна працуе кантралёрам 24 гады, і ніколі не атрымоўвала кірзавыя боты. Толькі ў 2013 годзе папрасіла 45 памеру, але наймальнік выкрасліў іх са спісу. Навошта ёй такі памер? Мужу?

Акрамя ботаў, павінна быць каска, якую жанчына з сабой не насіла.

**Прадпрыемства гатова кампенсаваць 32 тысячы дэнамінаваных рублёў, але пры ўмове, калі будзе даказана, што кантралёр упала і атрымала траўму менавіта з-за таго, што была без кірзавых ботаў.**

У заключэнні вызначылі небяспечныя вытворчыя фактар – у пацярпелай не было кірзавых ботаў. Але падобны небяспечны вытворчы фактар адсутнічае ва ўсіх нарматыўных дакументах. І нават Міністэрства ЖКГ не дало яснага тлумачэння, калі кантралёрам абуваць боты: пры праверцы кватэр ці перамяшчэнні па плошчы.

Калі пагадзіцца з інспекцыяй, то ўсе жыхары горада, якія ідуць у выканкам, каледж і іншыя ўстановы, павінны быць у кірзавых ботах ці валёнках з галошамі.

А пацярпелая пераносіла ўсяго некалькі паперак па Цэнтральнай плошчы, упала каля бардзюра, у некалькіх кроках ад грамадскага прыпынку, лічы на роўным месцы. Можа, яна за бардзюр зачапілася, ніхто ж не высвятляў.

### Ці неабходныя кірзавыя боты для плошчы?

Няма прамой прычынна-выніковай сувязі паміж адсутнасцю ботаў і падзеннем. Прычына падзення ўвогуле незразумелая. Яна ўпала, таму што: не было ботаў, не абула іх, дырэктар не выдаў, начальнік не праверыў, слізка, зачапілася, страціла прытомнасць, размаўляла па тэлефоне, а можа, увогуле наўмысна – варыянтаў безліч.

У спецрасследаванні інспекцыі не ўлічылі характар работы, якую выконвала кантралёр, няма абгрунтавання, чаму яна павінна была мець спецабутак. Хіба занесці дакументы ў выканкам – небяспечны фактар і на Цэнтральнай плошчы неабходныя кірзавыя боты?

Падчас спецрасследавання не ўстанавілі парушэнні ў прыборцы плошчы, па ёй былі размеркаваныя супрацьгалалёдныя сродкі.

У той дзень у Маладзечне не зарэгістравалі іншыя траўмы. За ўвесь люты было толькі тры траўмы, прычым гэты выпадак у журналах зарэгістраваны не быў. А значыць, не было даследавання на прадмет алкагольнага ап'янення ў той момант. Для выплаты кампенсацыі, паводле калектыўнай дамовы, гэта галоўная ўмова.

Стан здароўя пацярпелай таксама не ўдакладнілі.

"Маладзечнаводаканал" выдае бясплатны праязны білет, таму дабрацца да выканкама можа было і аўтобусам.

Інспекцыя не звярнула ўвагу, што раней пацярпелую адхілялі ад працы за грубае парушэнне тэхнікі бяспекі.

Таму высновы ў заключэнні і акце аб няшчасным выпадку лічу неабгрунтаванымі і не пацверджанымі матэрыяламі праверкі, каб незаконна атрымаць з прадпрыемства 32 тысячы рублёў.

Не пужайцеся, калі да вас прыйдзе работнік у чырвонай касцы, валёнках і целагрэйцы, каб праверыць вадамеры на кухні і ў санвузле.

**Іван АПАНАСЕВІЧ,**
**начальнік абаненцкага аддзела "Маладзечнаводаканала".**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.09 | 6.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9330 | **1,9176** |
| Еўра | 2,1636 | **2,1510** |
| Злоты, 10 | 5,0490 | **5,0036** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0218 | **3,0701** |
| Грыўня, 100 | 7,4733 | **7,4305** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 5.10** | | |
| Еўра | 2.1400/2.1700 | **2.1300/2.1550** |
| Долар ЗША | 1.9150/1.9330 | **1.9100/1.9220** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **28.09** | | **5.10** | |
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 32 400 | 3,24 | 32 400 | 3,24 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 500 | 0,55 |
| Часнок, 1 кг | 65 000 | 6,50 | 69 500 | 6,95 |
| Капуста, 1 кг | 4 400 | 0,44 | 3 900 | 0,39 |
| Морква, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 400 | 0,54 |
| Баклажаны, 1 кг | 19 500 | 1,95 | 16 900 | 1,69 |
| Лімоны, 1 кг | 47 500 | 4,75 | 44 500 | 4,45 |
| Апельсіны, 1 кг | 32 000 | 3,20 | 32 500 | 3,25 |
| Мандарыны, 1 кг | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Гранаты, 1 кг | 44 900 | 4,49 | 44 900 | 4,49 |
| Ківі, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 29 000 | 2,90 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 9 500 | 0,95 | 12 500 | 1,25 |
| Агуркі, 1 кг | 22 500 | 2,25 | 21 900 | 2,19 |
| Перац, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 10 500 | 1,05 |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 4 500 | 0,45 |
| Дыня, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 10 000 | 1,00 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 27 000 | 2,70 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Калі ў кватэрах і садках стане цёпла?

**У вілейскіх садках, школах і бальніцах ацяпленне далі ў сераду, 5 кастрычніка.**

У Маладзечне батарэі ў сацыяльнай сферы сталі цёплымі 6 кастрычніка.

– Кватэры пачнуць падключаць да ацяплення з панядзелка, 10 кастрычніка, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" **Леанід Кузняцоў**, намеснік начальніка Маладзечанскіх электрасетак па цеплаэнергіі.

У Мядзеле падключаць ацяпленне пакуль не плануюць, расказаў "Рэгіянальнай газеце" галоўны інжынер Мядзельскай ЖКГ **Уладзімір Шабовіч:**

– Тэмпературны рэжым трымаецца на дапушчальным узроўні. Толькі ў ноч на сераду ён быў 8,8 градуса. Каб пачалі падключаць ацяпленне, трэба, каб тэмпература ніжэй за 10 градусаў пратрымалася пяць сутак. Таму пакуль з падключэннем ацяплення мы пачакаем.

Тэлефон Валожынскай ЖКГ у сераду маўчаў.

– Хутка, – адказаў галоўны інжынер Смаргонскай ЖКГ **Аляксей Гакуць**. – Пакуль падключэнне ацяплення не пачалося, але як толькі мы атрымаем загад ад выканкама, адразу пачнём.

У Астраўцы таксама з падключэннем ацяплення не спяшаюцца.

Яны, як Ашмяны і Смаргонь, чакаюць загаду ад Гродзенскага аблвыканкама.

**Наталля ТУР.**

## На вілейскім вадасховішчы знайшлі цела задушанай жанчыны

ВІЛЕЙКА

Цела жанчыны было ў мяшку.

Супрацоўнікі рыбаховы па службовых справах ездзілі на вадасховішча. Яны заўважылі, што насупраць чыжэўскай затокі па вадзе плавае вялікі мяшок.

Калі мяшок развязалі, убачылі ў ім труп невядомай жанчыны.

Эксперты ўжо ўстанавілі, што жанчыну задушылі, а пасля кінулі ў ваду.

Вядзецца следства. Асобу жанчыны ўстанаўліваюць.

Пра гэта расказалі супрацоўнікі Вілейскай выратавальнай станцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## На вуліцы Віленскай быў труп

МАЛАДЗЕЧНА

Каля ручая, што непадалёк ад лёгкаатлетычнага манежа на вуліцы Віленскай, знойдзены часткова стлелы труп жанчыны.

На сённяшні дзень вядома, што смерць наступіла каля чатырох тыдняў таму. Жанчына прыкладна 170-сантыметровага росту была апранута толькі ў шэры світар з замком.

Побач з трупам былі знойдзены два мабільныя тэлефоны без СІМ-картаў: "Самсунг" і "Сіменс".

– Пакуль экспертыза не вызначыла ўзрост жанчыны і прычыны яе смерці, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

Следчы камітэт просіць, каму вядома асоба жанчыны або абставіны здарэння, паведаміць па тэл. **8-0176-77-79-59.**

**Наталля ТУР.**

## Час абазначыць сябе флікерам. Пачынаецца акцыя "Пешаход"

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 6 да 10 кастрычніка пройдзе прафілактычная акцыя "Пешаход".

У гэты час супрацоўнікі міліцыі праверацъ, як пешаходы выконваюць правілы дарожнага руху, асабліва гэта будзе датычыцца месцаў масавага перасоўвання пешаходаў; правядуць інфармацыйна-тлумачальную работу па прафілактыцы дарожна-транспартнага траўматызму ў працоўных калектывах і ўстановах адукацыі.

У цёмны час будуць працаваць спецыяльныя рэйдавыя групы ў населеных пунктах, набліжаных да аўтамабільных дарог; патэнцыйна-небяспечных вуліцах і дарогах. Яны праверацъ, ці абазначаны святлоадбівальнымі элементамі пешаходы, раварысты, кіроўцы гужавога транспарту.

**Паводле дзяржаўтаінспектара Маладзечанскай ДАІ Сяргея Бартоша.**

## У Маладзечне шукаюць мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА



Маладзечанскі РАУС адшуквае зніклага без звестак **Пятра Мядзелку**. Мужчыну – 64 гады. Ён жыве ў Маладзечне.

Ноччу каля 1:00-3:00 4 кастрычніка гэтага года ён пайшоў з дому і знік.

Прыкметы: на выгляд 64 гады, поўнага целаскладу, твар круглы, лоб высокі, бровы дугападобныя сярэднія, кароткія светла-русыя валасы.

Быў апрануты ў цёмную кепку, цёмна-зялёную куртку, сінюю кашулю ў чырвоную клетку, скураны карычневыя тапкі.

Калі вы ведаеце штонебудзь пра месцазнаходжанне Пятра Мядзелкі, паведамляйце ў Маладзечанскі РАУС па нумарах: **(80176) 74 96 83, (8029) 546 40 44 або 102.**

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС.**





ТЭМА НУМАРА




Старонка Вікторыі ў сацыяльнай сетцы. Фота vk.com.

# Ці павінны школьнікаў адпраўляць на бульбу?

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля трагедыі, якая здарылася ў чацвер, 29 верасня, калі падчас уборкі бульбы загінула 13-гадовая школьніца, з'явілася шмат пытанняў.**

Па-першае, гэта, канешне ж, хто вінаваты? Але на гэтае пытанне змажа адказаць толькі суд, калі скончыцца следства.

Другое пытанне, на якое паспрабуем адказаць мы: ці адпускаць сваіх дзяцей на сельскагаспадарчыя работы.

Разбірацца ў тонкасці заканадаўства нам дапамагае **Дэяніс Тамашаў**, начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартаменту дзяржаўнай інспекцыі працы.

– Заключэнне працоўнага дагавора, згодна з заканадаўствам, допускаецца толькі з асобамі, якія дасягнулі 16-гадовага ўзросту.

Калі дзіцяці 14 гадоў, то з ім можа быць заключаны працоўны дагавор толькі з пісьмовага дазволу бацькоў.

– І то, такі дагавор можа быць заключаны толькі на выкананне лёгкай працы, дзе няма фактараў, якія мы адносім да небяспечных. Патлумачу: там, дзе выкарыстоўваюцца рэчывы, якія могуць нашкодзіць здароўю дзіцяці, або там, дзе працуе тэхніка з усялякімі "веялкамі" і "сеялкамі", дзяцей увогуле быць не павінна. Тое ж датычыцца і ўборкі бульбы. На полі, дзе працуе тэхніка, дзіцяці знаходзіцца забаронена.

Акрамя таго, перанос і перасоўванне непаўналетнімі цяжару ўручную рэгламентаваны міжгаліновымі правіламі па ахове працы пры правядзенні пагрузачна-разгрузачных работ, зацверджаных пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ №173 ад 12 снежня 2005 года.

Згодна з гэтым заканадаўчым дакументам, дзіцяці, якому 14 год, дазволена падымаць і пераносіць цяжар, вага якога не перавышае трох кілаграмаў.

– Парушэнні, якія дапусцілі тыя, хто адпраўляў 13-гадовую школьніцу на ўборку бульбы, відавочныя. Адказны за гэта, па-першае, павінны быў пераканацца ў тым, што дзіцяці споўнілася 14 гадоў, што ў яго ёсць медыцынская даведка, якая дазваляе выконваць фізічную працу.

На пытанне, ці адпраўляць дзяцей дапамагаць калгасам, Дэяніс Тамашаў адказаў:

– Толькі з пісьмовага дазволу бацькоў.

Са словамі Дэяніса Тамашава пагадзілася і начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Іна Драпеза:**

– Канешне, адпраўляць дзіця на бульбу ці не, вырашаюць толькі бацькі. Ніхто не ў праве прымушаць дзіця. Больш я нічога каментаваць не буду. Ідзе следства, хай там і разбіраюцца, хто вінаваты.

Яшчэ адно пытанне, якое актыўна абмяркоўваюць маладзечанцы, гэта чаму на бульбу адпраўляюць школьнікаў, калі ў горадзе шмат беспрацоўных:

Начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама **Вольга Майстрэнка** расказала "Рэгіянальнай газеце", што паміж СВК і ўпраўленнем заключаны дагавор.

– Калі чалавек хоча паехаць на ўборку бульбы, ён павінны прыйсці да нас і напісаць заяву. Мы яшчэ не адмовілі нікому. Штодзённа мы адпраўляем на ўборку бульбы каля 50 беспрацоўных. СВК за гэта разлічваецца і бульбай, і грашыма. За дзень працы работнік атрымоўвае 10 – 12 рублёў.

Недахопу ў працоўнай сіле, прызнаецца Вольга Майстрэнка, у Маладзечне няма.

**Наталля ТУР.**

## "Хуткая": шанцаў выжыць не было

Здарэнне адбылося 29 верасня каля гадзіны дня.

Поле, на якім працавалі дзеці, месціцца непадалёк ад вялікага кальца на выездзе на Мінск.

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" пра гэта паведаміў хлопчык, які ў той момант знаходзіўся там жа на полі.

Ён расказаў, што ведае, што дзяўчынка вучылася ў 8 класе 11 школы.

– Грузавік з бульбай здаваў назад, – расказвае хлопчык. – І не заўважыў, што ззаду стаіць дзяўчынка, і наехаў на яе. Пакуль прыехала "хуткая", дзяўчынка памерла.

На станцыі "хуткай дапамогі", якая прыехала на месца здарэння праз сем хвілін пасля выкліку, расказалі, што ў Вікторыі шанцаў выжыць не было:

– Дзяўчынка атрымала траўмы, несумяшчальныя з жыццём. У машыну "хуткай дапамогі" яе ніхто не забіраў. Яна памерла на месцы.

За рулём грузавіка, які наехаў на дзяўчынку, быў 22-гадовы работнік СВК "Хоўхлава".

Галоўны бухгалтар СВК расказала:

– Нічога благога пра кіроўцу сказаць не магу. Сама я з ім перасякалася некалькі разоў. Малады, талковы. У нас ён працаваў не адзін год. Ведаю, што ён не мясцовы, пераехаў у Хоўхлава, калі ажаніўся. Яго дзіцяці, здаецца, няма яшчэ і года.

Маладзечанскі аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па частцы 2 артыкула 317 (Парушэнне ПДР або эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека) Крымінальнага Кодэкса РБ.

Маладзечанцы не засталіся абыякавымі да трагедыі.

**Аляксей Лянкевіч** даведаўся аб здарэнні са СМІ.

– Я асабіста не быў знаёмы з Вікай (так звалі дзяўчынку, якая загінула). Але калі даведаўся пра гэта, вырашыў дапамагчы сям'і грашыма.

Аляксей напісаў у сацыяльных сетках абвестку, што ўсіх ахвотных дапамагчы чакае ў 18:00 каля цэнтральнага ўвахода ў парк.

– Проста шкада людзей. Вось учора вырашыў проста дапамагчы ад горада. Я не займаю які-небудзь пост, каб афіцыйна гэта зрабіць. Проста ад душы дапамагчы ўсім горадам. Сам працую ў адукацыі. Шкада да глыбіні душы гэту дзяўчынку.

Сваячка Вікторыі **Ангеліна Ясевіч** расказала "Рэгіянальнай газеце":

– Вікулька з нараджэння заўсёды побач. Яна мая пляменніца. Гэта чароўная, таленавітая дзяўчынка, незвычайна добрая. Віка марыла быць псіхолагам, яна класна малявала, захаплялася танцамі. Тое, што адбылося, не паддаецца ніякаму разуменню. Так не павінна быць, гэта няправільна.

Сябры Вікторыі ўсе, як адзін, кажуць, што яна была вясёлай таварыскай дзяўчынкай.

Вікторыя была адзіным дзіцем у сям'і.

**Рэдакцыя выказвае спачуванні сваякам і блізкім Вікторыі.**

Фота Барбары ЕНДЖЭЙЧЫК.

Пратэстуючыя ў Варшаве збіраліся на Замкавай плошчы, а пасля прайшліся шэсцем па цэнтральных вуліцах.

# "Чорны пратэст" – супраць чаго выступаюць у Польшчы?

**Горад, вуліцы якога запоўненыя натоўпам людзей. Усе ў чорным і з парасонамі ў руках. З раніцы да вечара не заканчваецца залева, але людзі ўпарта ідуць па лужынах.**

Так выглядала Варшава ў гэты панядзелак, 3 кастрычніка. На вуліцы горада выйшлі людзі з пратэстам супраць ініцыятывы аб забароне абортаў. Так званы "Чорны пратэст" прайшоўся ледзь не па ўсіх польскіх гарадах.

На панядзелак быў абвешчаны агульнапольскі страйк жанчын. У гэты дзень яны адмовіліся выходзіць на працу, а таксама займацца дамашнімі справамі. У цэнтры Варшавы гэта адчувалася: у кавярнях абслугоўвалі пераважна мужчыны-афіцыянты, ды і за столікамі сядзелі адны мужчыны.

У прадуктовай краме, купляючы бутэльку вады, давялося выслухаць апраўданне ад прадавачкі, якая пачувалася нязручна на працоўным месцы ў гэты дзень. Яна не магла далучыцца да пратэсту, але апранулася на працу ва ўсё чорнае.

Чалавек, які раптам апынуўся ў цэнтры гэтых падзей і быў апрануты у светлыя штаны і яркую куртку, пачуваў сябе ніякавата. Асабліва ўлічваючы той факт, што ў той жа дзень адбываўся і своеасаблівы "белы пратэст". Людзі, якія падтрымліваюць ідэю аб поўнай забароне абортаў, апраналіся ў белае і прыходзілі ў касцёлы. Незалежна ад поглядаў, цябе аўтаматычна "прыпісваюць" да аднаго з бакоў, ацэньваючы па адзенні.

Як і многія іншыя акцыі пратэсту ў Польшчы, гэта прайшла мірна і завяршылася без інцыдэнтаў. Адрознівалася яна двума момантамі: па-першае, колькасцю ўдзельнікаў. У адной Варшаве колькасць пратэстуючых налічвала некалькі соцень тысяч.

Па-другое, яркімі і агрэсіўнымі лозунгамі на транспарантах: "Урад настолькі гнуткі, што залазіць нам у ...", "Хочам нараджаць у каханні, а не пасля гвалту і тэрору", "Акрамя маткі ў мяне ёсць мозг і сэрца".

**Ад 1993 года ў Польшчы легальны аборт можна зрабіць толькі ў тым выпадку, калі цяжарнасць пагражае жыццю і здароўю жанчыны, калі дзіця было зачатае ў выніку гвалту ці інцэсту, або калі дзіця можа нарадзіцца з сур'ёзнымі генетычнымі захворваннямі.**

Новая ініцыятыва, на падставе якой будзе створаны законапраект, забараняе аборты і ў гэтых выпадках. Гэта ўжо не першая ініцыятыва новага польскага ўрада, абранага летась, якая выклікае бурную хвалю незадаволенасці ў грамадстве. Правячая партыя "Права і Справядлівасць" і прэм'ер-міністр Польшчы **Беата Шыдла** выступаюць за ўхваленне ініцыятывы.

### Што варта ведаць беларусу пра сітуацыю ў Польшчы

Адгалоскі польскіх падзей, трапляючы ў Беларусь, часам набываюць дзіўныя формы. Напрыклад, даводзіцца сутыкацца з выказваннямі, што ўсе палякі выступаюць за аборты. Аднак не ўсё так адназначна. Усіх пратэстуючых можна ўмоўна падзяліць на чатыры групы.

Па-першае, прадстаўніцы феменісцкіх арганізацый і іх прыхільніцы. Пад лозунгам "Маё цела – мая справа" яны адстойваюць права жанчын самастойна прымаць рашэнні ў выпадку цяжарнасці.

Па-другое, тыя, хто не бачыць у абортах нічога добрага, але жадае, каб у крайніх выпадках – гвалт, інцэст, генетычныя мутацыі – палякі ўсё ж маглі пазбавіцца цяжарнасці.

Па-трэцяе, тыя, хто не жадае, каб іх маральны выбар абмяжоўваўся законам. Сюды трапляюць нават веруючыя каталічкі, якія кажуць пра тое, што такія справы не рэгулююцца законапраектам. Калі жанчына свядома ідзе на аборт, разумее яго наступствы, але гатовая ўсё жыццё несці на сабе цяжар гэтага граху і ўчынку, то ўсё ж мусіць мець права на такое рашэнне.

У чацвертых, сярод праціўнікаў новай ініцыятывы шмат тых, каго ўвогуле мала хвалюе сітуацыя з абортамі. Яны проста выступаюць супраць самога новага ўрада. "Чорны пратэст" – яшчэ адна нагода выказаць сваё незадавальненне.

Калі новы законапраект будзе пазітыўна разгледжаны парламентам і прыняты ў выніку галасавання, то Польшча атрымае самае суровае ў Еўропе заканадаўства ў справе абортаў.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у 2015 годзе ў Польшчы было зроблена 977 абортаў (для параўнання – у Беларусі 25 тысяч цягам 2015). Пазаўрадавыя арганізацыі рэкамендуюць памножыць лічбу на дзесяць, улічваючы нелегальныя аборты і аборты, зробленыя за мяжой, якія не ўваходзяць у афіцыйную статыстыку.

У выпадку змены польскага заканадаўства Беларусь наўрад ці стане краінай "абортнага турызму" – полькам нашмат лягчэй ездзіць па гэтых справах без віз у Чэхію ці Славакію. Аднак дыскусіі на гэту тэму набіраюць абароты і ў нас. Як вы лічыце, чаму можа навучыцца беларусаў досвед краіны-суседкі? Выказвайцеся ў каментарах на нашым сайце rh.by ці дасылайце ліст на скрыню regionnews @rh.by.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com





з Аксанай Ярашонак-Камінскай

# Ашмяншчына літаратурная: край багаты на імёны і даты

**Край, які натхніў Уладзіміра Караткевіча на напісанне кнігі "Чорны замак Альшанскі". Падарыў Якубу Коласу музу і каханую жонку Марыю Каменскую (Міцкевіч). Даў апошні прытулак беларускаму паэту Францішку Багушэвічу. Сёння распавядаем пра літаратурнае жыццё Ашмянскага раёна.**

● У 16 стагоддзі вёска на Ашмяншчыне Біюцішкі належала публіцысту **Андрэю Волану**.

У 1610 годзе ён тут памёр і пахаваны.

● У 17 стагоддзі ў Ашмянах працавала друкарня.

● У школе кляштара базыльянаў у Барунах у другой палове 18 стагоддзя вучыліся пісьменнікі **Антон Адынец**, **Юльян Корсак**, **Ігнат Ходзька**.

● У гэтым жа будынку ў 1920 годзе была адчыненая першая ў Польшчы беларуская настаўніцкая семінарыя.

● Багатым на імёны і даты літаратурнае жыццё Ашмяншчыны было ў 19 стагоддзі.

● У Ашмянах у 1822 годзе нарадзіўся яўрэйскі пісьменнік **Якаў Сапіра**.

У 10-гадовым узросце разам з сям'ёй ён пераехаў у Палесціну, дзе пасля выходзілі яго кнігі.

● Вёску Каменны Лог і яе ваколіцы ў 19 стагоддзі ў нарысе "Падарожжа з Вільні ў Ашмяну" апісаў паэт **Уладзіслаў Сыракомля**.

А ў 1856 годзе ён згадаў гэтыя мясціны ў сваім дарожным дзённіку.

● У вёсцы Гейстуны нарадзіўся польскі паэт, перакладчык, выдавец Антон Адынец (1804-1885).

У час вучобы ў Віленскім універсітэце ён пасябраваў з літаратарамі **Адамам Міцкевічам**, **Янам Чачотам**, **Тамашам Занам**, **Ігнатам Дамейкам**.

● У 1848 годзе беларускі фальклярыст і этнограф з Ашмянаў **Рамуальд Зянькевіч** выдаў кнігу "Пра курганы і гарадзішчы Ашмянскага павета".

● У Жупраны з суседніх Кушлянаў часта прыязджаў Францішак Багушэвіч.

Цяпер мясцовая школа носіць імя паэта. У Ашмянах ёсць музей Багушэвіча і вуліца, названая яго іменем.

● На магілу да Багушэвіча ў Жупраны прыязджалі ў пачатку 20 стагоддзя Якуб Колас і **Янка Купала**.

● З маёнтка Паляны паходзіць польскі паэт і празаік, публіцыст, перакладчык, краязнаўца, літаратурны крытык **Чэслаў Янкоўскі** (1857–1929).

Ён аўтар вядомай працы "Ашмянскі павет. Матэрыялы да гісторыі зямлі і людзей", дзе ёсць звесткі па гісторыі асобных родаў, шляхецкіх сядзібаў Ашмяншчыны.

● У Гальшанах у 1890 годзе нарадзіўся паэт **Вінцук Адважны** (Язэп Германовіч).

Ён пісаў апавяданні, вершы, байкі. Аўтар кніг "Беларускія цымбалы", "Князь і Лапаць", "Байкі і іншыя вершы". Апошнія гады жыў у Англіі, рэдагаваў часопіс "Божым шляхам".

● А ў Семерніках нарадзіўся і жыў сапраўдны беларускі народны казачнік **Макар Спірыда** (1867–1950).

У 1948 годзе ад яго запісалі шмат фальклорных твораў.

● Вёска Навасяды – радзіма фальклярыста, паэта, карэспандэнта "Нашай Нівы" **Андрэя Зязюлі**.

● У 1920-я гады ў Ашмянах месцілася беларуская кнігарня, заснаваная моваведзнаўцам і перакладчыкам, ураджэнцам Смаргоншчыны **Янкам Станкевічам**.

● На літаратурнай старонцы раённай газеты "Ашмянскі веснік" сёння перыядычна друкуюцца творы **Анатоля Каваленскага**, **Валянціны Васюкевіч**, **Галіны Даўгашэй**, **Валянціны Ліштван**, **Яўгена Куста**, **Ядвігі Чаплінскай**, **Пятра Шаколы** і іншых.

Пры газеце працуе літаратурнае аб'яднанне. Ім кіруе літаратар і журналіст **Аліна Санюк.**

---

**Валянціна Ліштван** (Навумчык)

Нарадзілася ў вёсцы Маркіняты Ашмянскага раёна. У сям'і было чацвёра дзяцей.

Дар пісаць вершы атрымала ад бацькі. Ён пісаў і марыў друкавацца. Але не паспеў. Памёр за 4 месяцы да нараджэння Валянціны. А калі ёй споўнілася 12 гадоў, памерла і мама. Таму ёй рана давялося паспытаць дарослае жыццё.

Скончыла Міхайлошчынскую базавую школу, затым Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча, аддзяленне харавога дырыжыравання.

Працавала ў розных установах культуры і адукацыі. Цяпер працуе ў раённым цэнтры культуры мастацкім кіраўніком і кіраўніком народнага тэатра гульні і забавы.

Піша сцэнарыі мерапрыемстваў, дзіцячых тэатральных пастановак, сама рэжысіруе.

Сур'ёзна пачала пісаць вершы у студэнцтве. Перыядычна друкуецца ў мясцовай газеце, калектыўных зборніках паэтаў Гродзеншчыны. Ёсць невялікі зборнік вершаў і зборнік аўтарскіх сцэнарыяў.

Супрацоўнічае з мясцовымі кампазітарамі **Мікалаем Разенбергам** і **Мікалаем Федарэнкам**. Сумесныя песні гучаць не толькі на Ашмяншчыне, але і за яе межамі.

Нязменны аўтар сцэнарыяў адкрыцця фестывалю "Гальшанскі замак".

Аўтар сцэнарыя прэзентацыі Ашмянскага раёна ля нацыянальнай бібліятэкі.



**Спадчына**

*Дзе спеў птушыны*
*абуджае гай,*
*Дзе па-сіроцку апусцелі*
*хаты –*
*Там самы любы і прыгожы край,*
*Мая Радзіма – вёска*
*Маркіняты.*

*Там кожная сцяжыначка вядзе*
*Да самых родных сэрцу*
*успамінаў –*
*Вось Зорка у вясковай*
*чарадзе,*
*І хата на узгорку каля*
*тыну.*

*Вячэрні і духмяны сырадой,*
*Матуля са збаночкам*
*каля печы.*
*І цэдзіць пільна, хваляччы надой,*
*А з кубкам тут як*
*тут і я, малеча.*

*Ізноў, ізноў мінулае бяжыць*
*Крыніцаю, рачулкаю,*
*сцяжынкай.*
*І так мне хочацца хоць*
*крышачку пажыць*
*На спадчыне маленькаю дзяўчынкай.*

*Каб побач і матуля,*
*сёстры, брат,*
*Вясёлы гоман дружнае*
*вячэры.*
*Але жыццё не павярнуць назад,*
*Насустрач мама не адчыніць дзверы.*

*Калі апошні свой адчую*
*час,*
*Туды паеду, лягу на ўзгорак.*
*Пакуль жыцця агеньчык не пагас,*
*Успомню ўсё: дзяцінства, радасць, гора.*

*Надыдзе ціха з чырванню заход,*
*Трава амые валасы расою.*
*Апошні верш прашэпча*
*мне чарот,*
*І гэта ўсё я панясу з сабою...*

*Дзе тайны невядомага*
*жыцця*
*З сустрэчай райскай і*
*зямною страцяй.*
*Ды нават на парозе забыцця*
*Са мною застануцца*
*Маркіняты.*

***

*Ну вось і восень свой*
*ступіла крок.*
*Пажоўклым покрывам*
*ляжаць даліны.*
*Прастор барвовы не*
*акіне зрок...*
*А я скрозь восень бачу*
*вочы сына.*

*І золата не вабіць, як*
*раней,*
*А ад вятроў душа самотна стыне.*
*Сярод дажджоў, туманаў і людзей,*
*Я зноў жа бачу толькі*
*вочы сына.*

*А восень не шкадуе жаўцізны.*
*І ў пазалоту апранае*
*лісце.*



*Усё вакол ў палоне навізны,*
*Я ж бачу вочы сынавы*
*ў блакіце.*

*Даруй, даруй сяброўка-*
*восень мне,*
*Цябе я, залатая, не пакіну.*
*І боль душы калісьці*
*праміне,*
*У сэрцы застануцца*
*вочы сына.*

*І будзем зноў з табою*
*вандраваць,*
*Сярод лісця, шукаючы*
*натхнення.*
*А вечарамі ціха ўспамінаць,*
*Шчаслівыя, мінулыя*
*імгненні.*

**Пётр Шакола**

Нарадзіўся ў Ашмянах у 1946 годзе, дзе жыве і цяпер. Працаваў рабочым, служачым, настаўнікам і дырэктарам школы. Цяпер на пенсіі.

Скончыў Ленінградскі сельскагаспадарчы інстытут і БДУ.

Са школьных гадоў у ашмянскай райгазеце друкаваліся яго заметкі, артыкулы, нарысы і эсэ на розныя тэмы, пазней – вершы.

Удзельнічаў у праграмах рэспубліканскага радыё "Культура". Самастойна выдаў некалькі паэтычных зборнікаў.

Аўтар "Рэгіянальнай газеты".



**Я**

*Я не сягаю ў глыбіню,*
*Гляджу ў сябе і наваколле,*
*Не парушаю цішыню,*
*А вэрхал не люблю,*
*тым болей.*

*Я па натуры – аптыміст,*
*З налётам лёгкім песімізму,*
*І па жыцці – мінімаліст,*
*Былы прыхільнік альтруізму.*

***

**Ашмяны – родны кут**

*Ашмяны – родны кут, наш*
*старажытны горад,*
*Ссівелы мой літвін, паляк і*
*беларус!*
*На ростанях вякоў – ты, як*
*былінны волат,*
*На краечку зямлі пад назвай*
*Беларусь.*

*Ніколі ні прад кім не стаў*
*ты на калені,*
*На вастрыё кап'я нанізваў*
*ваяроў,*
*Заўсёды мудрым быў, дасціпным і сумленным,*
*Ласкава сустракаў і прытуляў сяброў.*

*І сёння ты такі ж: утульны*
*і гасцінны,*
*Ты не адну душу сваім цяплом сагрэў,*
*З табою – мар узлёт і лепшыя часіны,*
*І дыхаць лёгка тут пад зялёнай дрэў.*

*Жыві і прыгажэй, наш мілы*
*сэрцу горад,*
*Звязалі мы свой лёс з табою*
*назаўжды.*
*На ростанях шляхоў ёсць*
*ты, мой добры волат,*
*І ў новы век ляцяць імклівыя*
*гады.*

***

**Памяць пра бацьку**

*Калі згадаю бацьку я –*
*У памяці ўзнікае поле*
*І конь, і свежая ралля,*
*А навакол – вясны раздолле.*

*Умеў наш тата працаваць,*
*Ісці за плугам росным ранкам.*
*Вучыў мяне касіць, араць,*
*Будзіў без жалю на світанку.*

*Я і цяпер каня змагу*
*Запрэгчы ў колы, асядлаю.*
*Цану рыдлёўцы і плугу,*
*Касе, граблям і вілам знаю.*

*І не пісаў бы вершаў я,*
*Калі б не зведаў тое поле,*
*Дзе конь і свежая ралля,*
*Ды навакол – вясны раздолле.*

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

☎166

Рэгіянальная газета. Rh.by ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

- ВАЗ-2105, 1984 г.в, цёмна-сіні, тэхнічна спраўны, моцны кузаў. Рухавік і падвеска без праблем. Цана 1200 руб. Т. МТС (8-029) 5511138.
- ВАЗ-2106. Цана пры аглядзе. Т. (8-029) 2521100.
- ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Мазда-626, універсал, 1993 г.в. Т. (8-033) 6002188.
- Міцубісі-Спэйс-Вэган, 1996 г.в, у аварыйным стане. Тэрмінова. Нядорага. Т. Вэ\лком 9490494.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-Эксперт, 2009 г.в, Т. Вэлком (8-029) 1199063.
- Рэно-Велсатыс, 2003 г.в, 2,2Д, колер хамелеон, 7500 руб.Т. (8-029) 7046266.*
- Сітраэн-Ксара, 1999 г.в, 1,6 бензін. Універсал, эксклюзіў. Т. (8-029) 7888547, (8-029) 1510537.
- Таёта-Карола, 1999 г.в, 2,0Д, 4 л на 100 км, 3999 руб. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.*
- Запчасткі да Аўдзі-100, 1987 г.в, (рухавік, 2,3 інжэктар, каробка перадач, газ. абсталяванне 3 пакалення). Маладзечна. Т. (8-029) 7069555.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- Шыны зімовыя R16 205/60 Ханкок, 4 шт. Камплект у стане новага. Дыскі літыя R17 Ніссан-Прымера, 4 шт. Т. (8-029) 8712076.

**КУПЛЮ**

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

**ПАСЛУГІ**

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маркава, 30 кв.м, выгоды частковыя. Т. (8-029) 8766082.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- Пакой у 2-пакаёвай кватэры. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*
- 2-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў а.г. Людвінова Вілейскага р-на, агул. плошчай 46,8 кв.м. Т. (8-029) 3345498.*
- 2-пакаёвую кватэру, 5/5. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т (8-029) 3745706.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 21514, 28073, (8-033) 6041497.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Валынца 6-а, (59,2/5,9/41,6), 3/5К, с/в раздзельны, балкон, падвал, мэбля. Т. (8-029) 6627887.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-01592) 41967, (8-029) 3073122.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- 4-пакаёвая кватэра, 76 кв.м, у Маладзечне па вул. Крынічнай. Т. (8-029) 3840109.*
- Гараж у ГК №24 (ГАЦ "Модуль") у Маладзечне. Т. (8-029) 3605237, (8-029) 8726641.
- Гараж у Маладзечне ў ГК №32 "Фестывальны". Вароты 2,7х2,7 м. Гараж 6х5,2 м. Магчымы абмен на аўтамабіль. Т. (8-029) 6374541.*
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом жылы драўляны ў добрым стане, 30 сотак, ёсць склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, 8 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 3641985 Вэлком, (8-017) 3931132 (хатні).*
- Дом новы ў в.Снежкава. Т. МТС (8-029) 2516187.*
- Дом у в. Кардон Вілейскага р-на. Ёсць лазня, калодзеж, участак, лес, рэчка побач. Т. (8-029) 2928728.
- Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай. Т. (8-029) 7005039.*
- Дом у Вілейцы па вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*
- Дом у Вілейцы па вул. Мірнай,15. Т. МТС (8-029) 2574576.
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Катэдж у цэнтры пасёлка Чысць, два паверхі, усе камунікацыі, цёплыя падлогі, убудаваная кухня, лазня, два гаражы, ландшафтны дызайн. Магчымы абмен ці арэнда. Т. (8-029) 7051915, 8-0176 706220.*

**ЗДАМ**

- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- Пакой для дзяўчыны ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 2521348.

**НАЙМУ**

- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 2717133
- 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне альбо дом. Парадак і своечасовую аплату гарантую. Тэрмінова! Т. (8-029) 8726295.

## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

**ФОТА-, ВІДЗАЗДЫМКА**

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

- Абітурыент. Руская і беларуская мовы. ЦТ. УНП АВ 4449889. Т. (8-033) 3763969.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду, нафту, газ. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*
- Агароджы з профнасцілу,штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Адпачынак у сядзібе. Правядзенне розных сямейных урачыстасцяў, беларуская кухня, лазня, сажалка. Пражыванне. Новы год. Вячэра (беларускія стравы). Т. (8-029) 9714041.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Парадніўся ў Вілейцы

**Заканчэнне ўспамінаў кіраўніка групы падрыўнікоў брыгады імя Фрунзе ўраджэнца Краснадарскага краю Максіма Міронавіча Фралова, 1912 года нараджэння. Працаваў шафёрам у Вілейцы. Узнагароджаны ордэнам Славы. Пераклад на беларускую мову і загалоўкі рэдакцыі. Гэты фрагмент запісу успамінаў, зробленых Сымонам Барысам у 1974-75-х гадах. Раней нідзе не публікаваўся.**
*** За што паважалі Яўгена Мірановіча.**

**Яўген Міранoвіч**

Каля мястэчка Свір пайшлі нашы партызаны на вясковую вечарыну. Абшукалі мясцовых хлопцаў. Узялі ў аднаго паліто, а ў другога – пісталет Вальтэр, які аддалі свайму камандзіру атрада Яўгену Мірановічу.

Пра Яўгена Мірановіча, нашым камандзіры роты, потым атрада імя Варашылава, варта сказаць асобна. Ён таго заслугоўвае. Яго сапраўднае прозвішча – Фінкельштэйн. Клікалі Мойса Майсеевіч. Бег з палону з-пад Вішнёўкі. Па шляху узяў чужое прозвішча. У наш атрад ён прыбыў як Міранович.

(Тут М. М. Фралоў дапускае памылку. Згодна са сцвярджэннямі іншых партызан, пасля гібелі камандзіра атрада Мірановіча прызначылі камандзірам М. М. Фінкельштэйна, і ён узяў яго імя і прозвішча – С.Б. Глядзі таксама даведку рэдакцыі).

Новы Мірановіч праславіўся ў брыгадзе як умелы гаспадарнік. У Лукаўцы ён стварыў пякарню, дзе пяклі формены хлеб. Потым арганізаваў паравы млын, шавецкую і кравецкую майстэрні. Ён стараўся для людзей. Быў чулым чалавекам. Любога можна праверыць на працы, на фронце – пры выкананні задання.

Перад блакадай было вырашана зрабіць дзёрзкую вылазку боем, каб паказаць Чырвонай Арміі свае заслугі. Невялікі наш атрад, усяго 30 чалавек, адправіўся выконваць заданне. Яго ўзначаліў Яўген Фёдаравіч Міранович. Ён сеў на пень і стаў зараджаць зброю. Як у яго атрымалася – я не ведаю, але пяць куль ён адразу выпусціў і засталіся дзве. Ён параніў сабе нагу. Яго нядобразычліўцы казалі, што ён зрабіў гэта знарок, бо баяўся ісці ў бой. У блакаду партызаны насілі яго на насілках, таму што паважалі.

Неяк начальнік асобага аддзела брыгады "Штурмавая" Белікаў скраў кабылку-пяцігодку ў нашага Мірановіча. Мы яе знайшлі ў Лукаўцы. Хацелі пабіць Белікава, але Міранович забараніў нам гэта рабіць.

У маі 1944 гады я ў блакадзе не быў, я разам з Янэкам Павуком хадзіў на заданне. Калі да нас перайшлі чэхі, то я змог нядрэнна апрануцца. Насіў скураную куртку-паліто, хромавыя боты. Усё блішчэла на мне, Сарафіне. Я меў нават кавалерыйскага гнядога каня. А вось пасля блакады прыйшоў басанож, у вайсковай форме хакі.

**Запісаў Сымон БАРЫС.**



Яўген Міранoвіч.

**Даведка "РГ". Яўген Фёдаравіч Міранович,** пры нараджэнні – Анатоль Маісеевіч Фінкельштэйн. Нарадзіўся 7 лістапада 1917 у мястэчку Смілавічы ў беднай яўрэйскай сям'і. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1974–1979), Герой Сацыялістычнай Працы (1972), Заслужаны аграном БССР.
Падчас Вялікай Айчыннай вайны камандзір партызанскага атрада брыгады імя Фрунзе, які дзейнічаў на тэрыторыі Вілейскай вобласці.
Ад 1944 года – дырэктар Любанскага спіртзавода, з 1961 – дырэктар саўгаса "Любань" Вілейскага раёна. Пад яго кіраўніцтвам саўгас вырас у буйную шматгаліновую гаспадарку з высокай культурай земляробства і жывёлагадоўлі. Яму прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.
Узнагароджаны ордэнам Леніна (1966, 1971).
Памёр у 1980 годзе. Пахаваны на гарадскіх могілках Вілейкі.

# Клятва сяброў

**На пачатку вайны Анатоль Фінкельштэйн стварае невялікую баявую групу з людзей, якіх яму рэкамендавалі і ведаў іх сам.**

Пазней уліліся акружэнцы. Баявое хрышчэнне група атрымала, арганізаваўшы засаду на гітлераўцаў паміж Смалявічамі і Лагойскам. Дзейнічала яна да жніўня 1942 года, калі на базе такіх асобных груп быў створаны партызанскі атрад імя Варашылава.

Кропкавыя і вокамгненныя ўдары, асабліва ў начны час, прынеслі прыкметныя страты немцам. Фашысты сталі паляваць на мсціўцаў, аб'явілі ўзнагароду за інфармацыю пра іх месцазнаходжанне.

**У гэты час Фінкельштэйн пазнаёміўся з жыхаром Оршы Мірановічам. Яны сталі сябрамі і пакляліся: калі хто-небудзь загіне, то іншы возьме яго прозвішча і будзе працягваць не толькі барацьбу з акупантамі, але і захавае яго далей праз свой род.**

Яны былі добра дасведчаныя пра зверствы ворага над мірнымі жыхарамі, у ліку якіх маглі апынуцца члены іх сем'яў, сваякі. Асцярагаліся недарма. У Смілавічах было расстраляна 13 чалавек з роду Фінкельштэйнаў. І Анатоль (Тэвель) Маісеевіч Фінкельштэйн помсціў за іх бязлітасна.

Падчас адной баявой аперацыі яго сябар загінуў. Фінкельштэйн, як і кляўся, узяў сабе яго прозвішча. З таго цяжкага і гераічнага часу і да скону з гонарам, годнасцю насіў прозвішча, імя, імя па бацьку сябра – Міранович Яўген Фёдаравіч. Дзеці яго, ужо па нараджэнні, Мірановічы, таксама ганарацца гэтым прозвішчам і не забываюць пра яго паходжанне ў замежжы. Па словах [дачкі Мірановіча] Яўгеніі Яўгенаўны, яе бацька пасля вайны адшукаў членаў сям'і свайго сябра, што засталіся ў жывых, і перавёз жыць у Мінск: не забываў і дапамагаў ім да самай сваёй смерці.

Гэта гісторыя адкідае ўсе інсінуацыі аб змяненні прозвішча для ўтойвання свайго яўрэйскага паходжання. Ніколі Міранович не адрокся ад сваёй нацыянальнасці.

## Ён быў адважным партызанам

У дзённіку баявых дзеянняў партызанскага атрада імя Варашылава амаль у кожным рапарце сустракаюцца запісы аб удзеле ў баях з акупантамі самога Мірановіча або яго групы. Загадам ад 25 мая 1943 года ён прызначаецца камандзірам другога ўзвода, а ў ліпені ўжо паспяхова камандуе ротай. У партызанскім атрадзе яна была самым арганізаваным, баяздольным, добра ўзброеным падраздзяленнем, паспяхова праводзіла аперацыі супраць фашыстаў.

Вось пра што абвяшчае загад камандзіра партызанскага атрада ад 8 жніўня 1943 года: "За ліпень ротай ваенінжынера трэцяга рангу Мірановіча праведзеная вялікая колькасць аперацый, знішчана: тры легкавыя машыны, адзін трактар "Сталінец", забіта дзевяць афіцэраў, чатыры паранены, забітыя 23 салдаты, пяць паранена. Тых, хто асабліва вызначыўся, стаўлю ў прыклад і абвяшчаю падзяку ваенінжынеру трэцяга рангу Мірановічу, лейтэнанту Яфімаву, камандзіру ўзвода Дакучаеву..."

Падобных запісаў у дзённіку баявых дзеянняў шмат. Міранович вельмі беражліва ставіўся да сваіх баявых таварышаў, не дапускаў неарганізаванасці. Кожную аперацыю старанна прадумваў. У выніку ўдавалася пазбягаць страт асабістага складу.

Ва ўсёй брыгадзе імя Фрунзе Міранович быў вядомы як аўтарытэтны і дасведчаны камандзір.

24 лістапада 1943 года яго прызначылі камандзірам партызанскага атрада імя Варашылава.

**Паводле Івана ЯРАШЭВІЧА, газета "Раённы веснік", Чэрвень.**

● КАЛЯНДАР

## 8 КАСТРЫЧНІКА

**185 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Ельскага (1831 – 1904), беларускага скрыпача, кампазітара, пісьменніка.

**25 гадоў** назад (1991) памерла Зоська Верас, пісьменніца, грамадска-культурны дзеяч. Пахаваная на могілках Панерай у Вільні.

**120 гадоў** з дня нараджэння Уры Фінкеля (1896, в. Ракаў Валожынскага раёна – 05.12.1957 г.), яўрэйскага крытыка і літаратуразнаўца.

## 10 КАСТРЫЧНІКА

**1881 год.** Нарадзіўся Ян Тарчэўскі (засценак Асінаўка, цяпер Ашмянскі раён), грамадскі дзеяч, "нашанівец", настаўнік. На пачатку свайго самастойнага жыцця быў даверанай асобай – камісарам, кіраўніком маёнтка Варата Санкт-Пецярбурскай губерні Лугаўскага павета ў палкоўнічыхі Ганэнфельт (аднак нядоўга). Кінуўся ратаваць спуджаных коней, і палкоўнічыха яго звольніла: "Гэта павінны былі рабіць мужыкі, а ты ў мяне кіраўнічы". Неўзабаве вярнуўся на родную Ашмяншчыну. У 1911 годзе спрабуе заняцца прыватным праўніцтвам на Ашмяншчыне, пра што сведчыць копія даверчага ліста ад 15 студзеня 1911 года, выдадзеная ашмянскім натарыусам. Пры канцы 1915-га ён ужо ў Туле: разам з Т.Будзькам спрабуе заснаваць фотапавільён, фатаграфічную майстэрню. Аднак гарадская ўправа не змагла забяспечыць майстэрню электрычнасцю. Тарчэўскі вяртаецца зноў на Ашмяншчыну, заводзіць сям'ю, займаецца гаспадаркай і асветніцкай працай. На пачатку 20-х, ужо пры Польшчы, ён вучыць дзяцей беларускай мове, беларускай гісторыі, бярэ ўдзел у розных беларускіх соймах, якія ладзіліся ў тую пару ў Вільні нацыянальнымі дзеячамі. Быў кнігаром ашмянскай кнігарні Беларускага выдавецкага таварыства. Ставіў спектаклі паводле п'ес Аляхновіча. Блізкімі сябрамі яго былі ксяндзы Гадлеўскі і Станкевіч, а таксама вядомы заходнебеларускі дзеяч Стэфановіч. На нацыянальны грунт Тарчэўскі прыйшоў праз творчасць Францішка Багушэвіча, быў парадненны з Багушэвічавым родам, меў шлюб з Марыяй, дачкой Францішкавай сястры Ганны. Багушэвічаву асобу лічыў узорам служэння Радзіме, узорам грамадзянства. Тарчэўскі быў шырока вядомы на Ашмяншчыне і ў суседніх паветах як чалавек добрай душы і беларускі дзеяч яшчэ з часоў нашаніўскай пары.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

*Аўтарская калонка*

Наталля ТУР



## Дваровыя ЦРУшніцы: нам не бачна, хто заходзіць у пад'езд

МАЛАДЗЕЧНА

**Двор, у якім я жыву, можна лічыць самым класічным прыкладам двара і дома, дзе ўсім да ўсяго справа.**

Не, тут не праводзяць позіркам са словамі: "Наркаман і прастытутка", але ведаюць, у колькі гадзін і хто цябе правозіць ці падвозіць дадому.

Тут у двары разам святкуюць святы, абмяркоўваюць навіны горада і ўсяго свету. Дзеляцца карыснымі парадамі, пачутымі ад самой Алены Малышавай.

Зусім нядаўна чую з балкона, як суседкі далёка за бальзакаўскі ўзрост абмяркоўваюць срокі ад расстройства страўніка.

У гэты час да пад'езда пад'язджае машына, з якой выходзіць наш сусед, салідны дзядзька на саліднай машыне – Аляксандр, здаецца, Мікалаевіч.

Калі ён параўняўся з лаўкай з нашымі мясцовымі "ЦРУшніцамі", яго мама паказвае на яго пальцам і на ўвесь двор выкрыквае:

– А вось калі ў Сашачкі быў панос…

Я з трэцяга паверха ўбачыла, як на лысіне "Сашачкі" выступілі буйныя кроплі поту.

І ці ведаеце вы, які сродак ад паносу самы дзейсны па версіі дваровай медыцыны?

Кока-кола! Праўда-праўда, у "Сашачкі" як рукой зняло.

І вось літаральна на днях вяртаюся з працы. Вядома, тут ні для каго не сакрэт, што я працую ў газеце.

І тут адна з суседак просіць:

– Наташа, можа б ты напісала ў газету, каб нам з двара прыбралі гараж. Напішы, што мы, жыхары дома, супраць таго, каб пасярод двара стаяў гараж. Хай яго службы адпаведныя разбяруцца. Бо перашкаджае! Калі за ім сядзіш на лаўцы, не відаць, хто заходзіць у пад'езд. Непарадак!

# Выставу ў памяць Васіля Лазоўскага правялі як сустрэчу на лаўцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Выстава Васіля Лазоўскага "… Вунь як…" адкрылася у сценах дзіцячай мастацкай школы 30 верасня вечарам памяці мастака, які прайшоў у выглядзе "сустрэчы на лаўцы".**



**На адкрыцці выставы ў памяць мастака Васіля Лазоўскага ў маладзечанскай дзіцячай мастацкай школе.**

Фота Ірыны БУБНОВАЙ

На вечарыне прысутнічала мноства сяброў, калег і знаёмых мастака, сярод іх **Міхась Казлоўскі, Мікола Аўчыннікаў, Генадзь Селядзец, Алена Кучко**, а таксама яго родныя: жонка **Ірына**, сын **Ян** і сястра **Марыя**. Яны прыйшлі не з пустымі рукамі – падарылі школе, дзе шмат гадоў працаваў Васіль Лазоўскі, адну з яго карцін "Рамонкі і валошкі".

**– Мне сапраўды вельмі важна бачыць тых, з кім сябраваў, жыў і ўвогуле меў зносіны мой настаўнік.**

Я яшчэ раз хачу сказаць яму дзякуй за ўсё тое, што ён зрабіў для ўсіх нас, за тыя гады, урокі, выкладанне, парады, – гаворыць аўтар афіш выставы выпускнік мастацкай школы **Яўген Казлоўскі**. – Для мяне ён заўсёды быў і застанецца вельмі вясёлым, разумным чалавекам, які ведае мноства цікавых гісторый. Лічу, што такім выдатным мастаком павінна ганарыцца ўсё Маладзечна. А я, у сваю чаргу, магу пахваліцца, што калісьці мяне вучыў сам Васіль Міхайлавіч Лазоўскі.

Пасля адкрыцця госці працягнулі бліжэй знаёміцца з творчасцю майстра, толькі ўжо праз яго работы: пейзажы, нацюрморты і сімвалічныя творы. Яны яркія па колеры, узбуджальныя па характары, у якіх нельга не вылучыць прыгожае спалучэнне фарбаў, каларыт і высокую культуру жывапісу. Асабістае месца займалі рэчы, якімі некалі карыстаўся сам аўтар. Гэта і пэндзлі з алейнымі фарбамі, палітра і сумка, з якой некалі хадзіў мастак, і, канешне, зборнік вершаў любімага паэта Максіма Багдановіча "Вянок".

– Васіля Лазоўскага я знала як настаўніка маёй дачкі, а калі мы даведаліся пра выставу, то адразу вырашылі схадзіць, – расказвае **Наталля Самаль**. – На мой погляд, усе карціны – часцінкі рэальнага жыцця. Яны напаўняюць сэрца гледача радасцю і лечаць чалавечую душу. Каля кожнага палатна хочацца пастаяць і паразважаць, асабліва ўразіла сімвалічная работа "…, а дым зямны, як воблакі нябесныя", напісаная ў 1993 годзе. Калі на яе глядзіш, на цябе наплываюць нейкія філасофскія думкі пра наша жыццё-быццё.

Пабываць на экспазіцыі можа любы ахвотны да 20 кастрычніка.

**Ірына БУБНОВА,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# Аб'ядналі музейныя каштоўнасці і сучасныя тэхналогіі

### Што прадставіла Вілейка на нацыянальным музейным форуме

ВІЛЕЙКА

**Вы ведаеце, калі ў Вілейку прыязджаў рускі цар Мікалай Другі? За што палітрук Мікалай Кісялёў атрымаў званне Праведніка народаў свету? А як звязаны з Вілейкай вядомы акцёр і клоўн Юрый Нікулін?**

Выканальнік абавязкаў дырэктара Вілейскага краязнаўчага музея **Алена Стрэж** і навуковы супрацоўнік **Надзея Аўдзей** адказвалі на гэтыя пытанні на Трэцім нацыянальным форуме "Музеі Беларусі". Форум праходзіў у Магілёве ад 30 верасня да 2 кастрычніка.

У агульнай экспазіцыі Мінскай вобласці работнікі музея прадставілі свой інтэрактыўны праект "Дзве вайны – памяць адна".

– Гэты праект мы зладзілі яшчэ ў 2015 годзе, – распавядае навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Год атрымаўся юбілейны: 70 год вызвалення Беларусі ад фашыстаў і 100-годдзе вызвалення нашага горада ў час Першай сусветнай вайны. Месца на форуме было няшмат, таму хацелася ўсё паказаць цэласна і яскрава.

Надзея адзначае, што ўсю інфармацыю яны прадставілі па-сучаснаму: на банерах.

На першых трох размясцілі звесткі пра Першую сусветную вайну: бой пра Вілейку 1915 года, прыезд Мікалая Другога ў горад, дзейнасць святароў у часы вайны.

А Другую сусветную паказалі праз трох яркіх асоб, якія звязаныя з Вілейкай.

Першы – гэта лётчык **Уладзімір Панін.** Яго самалёт падбілі ля вёскі Снежкава ў самым пачатку вайны. У свой час гэтае імя, як і шмат іншых, адкрыў вілейскі краязнаўца **Анатоль Рогач.** Цяпер на месцы, дзе падбілі самалёт, стаіць помнік.

Прадставілі таксама інфармацыю пра партызанскі рух 1943 года на Вілейшчыне. Расказалі пра палітрука і партызана **Мікалая Кісялёва**, які выратаваў жыцці 218 яўрэям. За што і атрымаў званне Праведніка народаў свету.

І яшчэ адна цікавая асоба – **Міхаіл Шуйдзін.** Чалавек, танк якога першым увайшоў у Вілейку ў час вызвалення горада. Стэнд, прысвечаны Шуйдзіну, назвалі "Герой, які дорыць смех". А ведаеце чаму? Пасля вайны гэты чалавек доўгі час выступаў у клоўнскім дуэце разам з Юрыем Нікуліным.

Дапаўнялі экспазіцыю Вілейскага музея плакаты часоў Вялікай Айчыннай вайны, літаратура па гісторыі горада, буклеты пра помнікі Вілейшчыны.

Надзея Аўдзей лічыць, што такія форумы патрэбныя. Заўсёды ёсць на што паглядзець. Кажа, вельмі ўразіла экспазіцыя музея Валожына. Яе прысвяцілі каталіцкаму святару **Уладзіславу Чарняўскаму**. Парадавалі музеі Маладзечна, Лагойска, Заслаўя.

Але разнастайныя экспазіцыі – не адзінае, што было на форуме. Музеязнаўцы, гісторыкі, рэстаўратары дзяліліся тут сваім досведам, ідэямі аб супрацоўніцтве. Народныя майстры прапаноўвалі паўдзельнічаць у майстар-класах.

Агульная экспазіцыя Мінскай вобласці "Памятай мінулае. Шануй сучаснае. Думай пра будучае", куды ўваходзілі выставы музеяў нашага рэгіёна, заняла на форуме першае месца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Цеплыня ўсмешак і святочных свечак: у "Логасе" адзначылі юбілей



Дырэктар Наталля Жыбуль запальвае свечку ведаў. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

ВІЛЕЙКА

**Салодкія пачастункі. Полымя святочных свечак. Цеплыня сяброўскіх усмешак. Шмат пажаданняў, вершаў, музыкі і танцаў. Так у вілейскай гімназіі "Логас" адзначылі 25-гадовы юбілей.**

Гісторыя ўстановы пачынаецца ад 1991 года. Тады на базе гарадской школы №2 заснавалі беларускую вілейскую гімназію.

Пазней яе перайменавалі ў гімназію №1 "Логас". "Логас" – паняцце старажытнагрэчаскае. І значыць "слова", "гаворка", "думка".

Пра гэта расказалі вядучыя педагог-арганізатар **Аксана Максімовіч** і вучаніца **Марыя Максімовіч.**

У сваім выступленні дырэктар гімназіі **Наталля Жыбуль** адзначыла, што за 25 год у гімназіі зроблена шмат. І выказала ўпэўненасць, што яшчэ больш будзе зроблена.

Дырэктар першая запаліла святочную свечку на сцэне. Свечку ведаў. А ўсе супрацоўнікі і госці гімназіі атрымалі ад Наталлі Жыбуль салодкія пачастункі з пажаданнямі.

Запальванне свечак стала своеасаблівай "фішкай" свята. **Вольга Ціхановіч** ад усіх настаўнікаў-ветэранаў запаліла свечку мудрасці, вучні – свечку дзяцінства. А ў гонар тых педагогаў, якія адышлі ў лепшы свет, загарэлася яркая свечка памяці.

Ганаровы госць і сябар гімназіі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт і бард **Уладзімір Цанунін** запаліў свечку сяброўства і супрацоўніцтва. Ён прачытаў свой новы верш, прысвечаны гімназіі. І прызнаўся, што спадзяецца: у хуткім часе гэты верш стане песняй.

"Логас" для Уладзіміра Цануніна – асаблівая ўстанова. Тут вучацца яго ўнучкі. А самая малодшая, трэцякласніца **Стэфанія**, разам са сваімі сябрамі танцавала на сцэне і чытала дзядулевы вершы.

Разам з дзецьмі ў святочным канцэрце свае таленты паказалі настаўнікі. Педагогі танцавалі, спявалі, выступалі ў ролі вядучых. Чым яшчэ раз пацвердзілі ісціну, што ў таленавітых настаўнікаў таленавітыя вучні.

Шмат дастойных людзей за 25 год выпусцілі педагогі гімназіі. Сярод выпускнікоў – паслы і будаўнікі, дактары і навукоўцы, супрацоўнікі міністэрстваў.

**Ёсць і такія, што, скончыўшы 11 класаў, паступілі ў педагагічныя ВНУ. А пасля вярнуліся ў родную гімназію педагогамі. Такія настаўнікі, а дакладней прыгажуні-настаўніцы, падарылі гімназіі вершы і запалілі свечку адданасці.**

– Сёння мы, выпускнікі 2016 года, можам вучыцца ў самых лепшых установах рэспублікі. За гэта дзякуй нашым настаўнікам, – сказала са сцэны сёлетняя выпускніца **Марыя Лазар**. Ад імя усіх, каго выпусціла гімназія за 25 год, Марыя запаліла свечку падзякі.

Свята ў гімназіі адчувалася ўжо на працягу тыдня. Калідоры ўпрыгожылі яркія паветраныя шары. Кожны клас падрыхтаваў віншавальны плакат. А яшчэ педагогі з вучнямі зладзілі выставу пчалы. Чаму пчалы?

Бо гэтае насякомае ад самага пачатку – сімвал гімназіі. У пчалы можна павучыцца сумлена працаваць, цаніць уласны час і ўмець правільна выкарыстоўваць тое, што маем.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Далучайцеся да конкурсу "Дзясятачка"

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**У другім туры нашага конкурсу "Дзясятачка" перамагла Марына Жаўняровіч з вілейскай гімназіі "Логас".**

Шчаслівым аказаўся бланк з дзясяткай па беларускай мове ад настаўніцы **Вольгі Аляксандраўны Петух**. Дзяўчынка атрымае фірменную торбачку і кубак ад "Рэгіянальнай газеты". Таксама яна працягвае ўдзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта, які будзе шукаць пераможцу ў канцы кастрычніка.

30 верасня прадстаўнікі рэдакцыі ўрачыста ўручылі падарункі пераможцы першага туру конкурсу – вучаніцы 5 "А" класа 14-й школы Маладзечна **Вікторыі Валюкевіч**.

Паважаныя бацькі і настаўнікі! Далучыце да конкурсу дзяцей і вучняў. Дзякуючы конкурсу ад "Рэгіянальнай газеты" "Дзясятачка" вы матывуеце школьнікаў выдатна вучыцца. Выхоўваеце разуменне, што добрымі ведамі можна зарабіць.

Любы ўдзельнік можа выйграць планшэт.

Нагадваем, што рэдакцыя таксама ўзнагародзіць удзельніка, які дашле найбольш бланкаў, і настаўніка, чые вучні будуць найбольш актыўна ўдзельнічаць у конкурсе.

У конкурсе могуць удзельнічаць вучні ўсіх класаў школ і гімназій з рэгіёна, у якім выходзіць "РГ". Для ўдзелу вам дастаткова выразаць бланк удзельніка, запоўніць і даслаць нам або прынесці ў рэдакцыю.

Адрас рэдакцыі: *222304, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а*. Зрабіце на канверце пазнаку **"10-ка"**.

Конкурс праводзіцца ў некалькі тураў. Вынікі тыднёвых тураў мы падводзім па пятніцах у 15 гадзін. Чарговы розыгрыш пройдзе 7 кастрычніка ў рэдакцыі "РГ". У ім будуць удзельнічаць бланкі, атрыманыя да 15 гадзін гэтага дня. Пераможцу мы абяром, выцягнуўшы адзін з бланкаў усляпую. Удзельнікі пры гэтым могуць прысутнічаць.

Бланкі, атрыманыя пасля 15 гадзін 7 кастрычніка і да 15 гадзін 14 кастрычніка, будуць удзельнічаць у розыгрышы чацвертага тура.

Абсалютна ўсе атрыманыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка бланкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта.

Яшчэ адзін падарунак мы прапануем для цэлага класа. На нашым сайце rh.by 8 кастрычніка мы размесцім галасаванне за класы, якія прадстаўляюць удзельнікі конкурсу. Той, які набярэ найбольш галасоў, выйграе паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Да ўдзелу дапускаюцца толькі выразаныя з газеты бланкі. Удзельнікам можа стаць вучань, які атрымаў у гэтым навучальным годзе адзнаку "9" ці "10" па любым прадмеце. Колькасць дасланых заявак неабмежаваная, але толькі раз з адной адзнакай, і толькі адну адзнаку можна ставіць у адзін бланк.

У графе "подпіс настаўніка" папрасіце паставіць подпіс настаўніка, які паставіў вам адзнаку.

**Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!**

### Бланк удзельніка конкурсу "Дзясятачка" (№41)




- Імя, прозвішча ____________
- Дата нараджэння ____________
- Клас ____________
- Школа ____________
- Населены пункт ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________
- Прадмет, за які атрыманы бал ____________
- Які бал атрымаў ("9" ці "10") ____________
- Дата, калі быў атрыманы бал ____________
- Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________
- Подпіс настаўніка ____________






## Худзеем разам з Наталляй Тур

МАЛАДЗЕЧНА

**Многія дзяўчаты ў сваім жыцці марыць пачуць тры галоўныя словы: "Ты так пахудзела".**

Але каб пачуць гэтыя словы, мы чакаем нейкай нагоды: ці то адпачынак на моры, ці то ўласнае вяселле. Або чакаем нейкага панядзелка, з якога добра пачынаць, ці Новага года.

І амаль кожная з нас, дзяўчат, шукае сабе нейкага стымулу.

І я яго знайшла! Ваш стымул – гэта я. А вы, чытачкі "РГ", – стымул для мяне.

Але прапаноўваю не чакаць да Новага года, а ўжо ў 2017-ы ўвайсці абноўленымі і лёгкімі.

Да таго моманту, як на сталах з'явяцца тазікі аліўе і тоны мандарынаў, пройдзе 12 тыдняў, чаму б не правесці іх з карысцю?

Дапамагаць нам у гэтым будзе трэнер **Руслан Дунец** і фітнес-клуб "Тытан".

Пачынаючы з наступнага тыдня Руслан будзе даваць парады ў спартыўнай зале мне, а на старонках газеты вам.

У нашай пастаяннай рубрыцы Руслан раскажа, з чаго пачынаць трэніроўкі, паспрабуе развеяць міфы, якія множаць праціўнікі здаровага ладу жыцця, раскажа, як правільна харчавацца, што рабіць, каб не сарвацца, і ці існуюць супрацьпаказанні для наведвання трэнажорнай залы.

– Я адразу магу адказаць на гэта пытанне, – уступае ў размову Руслан, – ёсць такі жарт, у якім толькі частка жарту:

**калі вы самі змаглі дайсці да трэнажорнай залы, значыць, вам займацца можна.**

Руслан Дунец называе заняткі спортам легалізаваным кайфам, бо, аднойчы паспрабаваўшы, вельмі цяжка "саскочыць" з гэтага. Арганізм, а менавіта кожная наша мышца, якіх у чалавека больш за 600, будзе патрабаваць да сябе ўвагі.

– Галоўнае – гэта правільна паставіць мэту. Мэта ў нашай справе – гэта канкрэтная лічба. Кілаграмы ці сантыметры. А таксама тэрмін, за які можна дасягнуць пастаўленай мэты.

А поспех справы – гэта рэжым і дысцыпліна.

**Мая мэта – гэта мінус 10 кілаграмаў да 31 снежня.**

А вам, паважаныя чытачы, прапаноўваю разам пачынаць змяняць сябе да лепшага, а ў канцы года зладзіць конкурс на нашым сайце. На конкурс трэба будзе даслаць свае два фотаздымкі: да і пасля. Тыя, хто зменіцца больш за іншых, атрымаюць прыз ад фітнес-клуба "Тытан".

**Наталля ТУР.**



# Лёгкія спосабы для лянівых, каб заняцца целам

**Трэнажорная зала, заняткі фітнесам – добры спосаб падтрымліваць сябе ў форме. А што ж рабіць людзям, якім бракуе часу заняцца ўласнай фізічнай формай ці яны не хочуць рабіць вялікіх высілкаў, каб дайсці да трэнажорнай залы.**

Выйсце знайшлі распрацоўшчыкі разнастайных праграм для тэлефонаў. Цяпер, не выходзячы з уласнай кватэры, вы можаце займець уласнага трэнера па фітнесу, але несапраўднага – тэлефоннага.

### Прапусцілі трэніроўку – чакайце злоснае паведамленне

Калі вы толькі спрабуеце свае сілы, пэўныя фітнес-праграмы прапануюць некалькі статусаў – ад пачаткоўца да майстра. У залежнасці ад таго, што выбіраеце, такую нагрузку падбірае тэлефон.

На выкананне заданняў даецца пэўны час, пасля невялікі перапынак і прыступаем да новага практыкавання. Першыя заняткі доўжацца паўгадзіны, пасля нагрузка і час паступова вырастаюць.

Плюс праграм такога кшталту ў тым, што заняткі вы прызначаеце на адпаведны час. Аднак, калі вы не прыйшлі на трэніроўку, тэлефон пачынае гучна нагадваць пра сябе. Калі і гэта не дапаможа, то чакайце злоснае паведамленне. Дробязь, але не прыемна.

### Ці намотваеце вы кіламетражы за дзень

Медыкі раяць праходзіць каля пяці кіламетраў у дзень, калі больш, то гэта толькі на карысць вам. Прасачыць за тым, колькі вы рухаецеся, зусім нескладана. Для гэтага ёсць разнастайныя варыянты крокамераў.

Вы ўключаеце праграму на тэлефоне, і яна пачынае самастойна лічыць, колькі кіламетраў вы прайшлі, з якой хуткасцю, колькі часу затрацілі на хаду.

Усе вашы рухі фіксуюцца, і выстройваецца графік, калі вы былі найбольш актыўным.

У некаторых праграмах ёсць цікавая перавага – на пачатку дня можна паставіць мэту, колькі трэба прайсці за дзень. Калі яна выкананая, праграма пачынае хваліць вас. Калі ж не, то ў канцы дня вас чакае парада.

Мы паспыталі на сабе, ці лёгка праходзіць у дзень пяць кіламетраў. У першы дзень нашага досведу мы крыху не дацягнулі. Аднак трэба ўлічваць і тое, што тэлефон не заўсёды знаходзіўся ў кішэні, а значыць, не падлічваў дробную актыўнасць.

**Асаблівa карысная такая праграма для тых, хто на працы мала рухаецца. Гэта падштурхне лішні раз устаць і прайсціся хаця б па офісе. Тады і праца пойдзе лепш.**

### Не лезе вада – не мучце арганізм

Не менш важным параметрам здароўя вашага арганізма з'яўляецца колькасць выпітай вады. Медыкі раяць спажываць паўтара-два літры вадкасці.

Праграмы, якія дапамагаюць сачыць за колькасцю выпітай вады, так і называюцца: "Час піць ваду", "Піце ваду", "Целу патрэбная вада". Большасць з іх пабудаваныя па прынцыпе, як толькі вы з'ядаеце талерку супу, выпіваеце чай, павінны ўнесці гэтыя дадзеныя ў праграму.

Начытаўшыся разнастайных карысных парадаў, я таксама паспытала на сабе гаючую сілу вады. Пачынала са шклянкі да сняданку. Першы дзень яшчэ нічога – арганізм сустрэў эксперымент з задавальненнем. А ў астатнія дні ён ужо ведаў, што з ім адбудзецца, таму наадрэз адмаўляўся, не дапамагаў ні выціснуты лімон, ці лыжачка з мёдам. Таму вырашыла, калі арганізм супраціўляецца, не трэба з яго здзекавацца.

Але ў прынцыпе, за дзень рэальна выпіваць паўтара літра вады. Тым больш, калі холадна, то гарачы чай становіцца, як ніколі, актуальным.

Асаблівa карысная праграма для тых, хто хоча пахудзець. Вада прытупляе голад.

### Тэлефон раскажа, як вы спіце

Напэўна, самымі цікавымі праграмамі, з якімі захочацца пагуляцца, будуць тыя, якія датычацца вашага сну. Адна з іх так і называецца "Калькулятар сну".

**Праграмы такога кшталту фіксуюць, колькі гадзін вы спіце, наколькі якасны ваш сон, як вы рухаецеся. І нават даюць уласныя рэкамендацыі, колькі часу патрэбна для таго, каб адчуваць сябе шчаслівым чалавекам.**

Але праграмы маюць і шэраг мінусаў. Папершае, тэлефон павінны быць як мага бліжэй да вас. Гэта дазволіць фіксаваць дадзеныя больш правільна. Аднак гэта і лішняе выпраменьванне для арганізма. Па-другое, праграма працуе ўсю ноч, таму трэба быць асцярожным, калі зарадка ў тэлефоне нетрывалая. На раніцу гадзіннік можа проста не спрацаваць.

З аднаго боку, падобнага роду праграмы ствараюць лішні клопат: уключыць крокамер, унесці дадзеныя, колькі выпілі вады. З іншага, паступова яны дысцыплінуюць вас, вы прывыкаеце да таго, што вам трэба больш рухацца, каб адчуваць сябе больш здаровым. Магчыма, гэтыя праграмы падштурхнуць звярнуцца да прафесійнага трэнера, з якім вы падбераце нагрузку, вызначыцеся з харчаваннем і рэжымам дня.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Сучасныя гаджэты не толькі могуць нашкодзіць здароўю, але пры правільным карыстанні дапамагчы яго ўмацаваць. Фота www.livehomefitnesstrainers.com






## Бруснічны соус – ідэальны дадатак да мяса, запяканак, бліноў

**“Усё люблю з брусніцаў: і варэнне, асабліва яшчэ з грушамі, і кампот. Лічу яго самым лепшым з усіх кампотаў – з грушамі, з яблыкамі. Люблю пірагі з брусніцамі.**

А цяпер, калі вы не назбіралі, то можна яшчэ купіць і замарозіць. І будуць тады ў вас усю зіму смачныя дзянькі.

Але мы ж ці не ўсе мясаеды. А мяса і варэнне, здаецца, ну, ніяк. Варэнне – не, а соус да мяса – сама тое”, – піша ў сваім паведамленні Вера С. з Валожына. А тут і рэцэпт. – Люблю гэты соус, ён ідэальна падыходзіць як да любога мяса, так і да агародніных запяканак. Смачна з ім есці бліны, сырнікі. Гэта шведскі соус.

*500 г брусніцаў, 100 мл партвейна, 1 літр вады, 10 г крухмалу, 200 г цукру і карыца – на смак.*

Усыпце брусніцы ў каструлю, заліце вадой і давядзіце да кіпення, Адкіньце ягады на друшляк, але не вылівайце адвар, ён спатрэбіцца трохі пазней. Самі брусніцы ператрыце да аднароднага пюрэ, а затым дадайце віно, цукар, карыцу і трохі адвару. Пакладзіце цяпер бруснічнае пюрэ ў каструлю, а ў адвар, што застаўся, дадайце крухмал, перамяшайце і заліце ім ягады. Зноў пракіпяціце соус і варыце яго на маленькім агні 5 хвілін, пастаянна памешваючы”.

**Вера С.**

## Атрымай смартфон за адно фота

**“Рэгіянальная газета” сёлета шчодрая, як сама восень. І калі вы ну зусім ніяк не можаце паўдзельнічаць у конкурсе “Дзясятачка”, каб выйграць планшэт за выдатную вучобу (гл. старонку 21), то далучайцеся да нашай акцыі “Не губляй ніводнага дня!”**


Фота Настасся РОЎДА.

Фота з фірменнага календара “РГ” на 2016 год.

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае самыя лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2016 год. Пакажыце, што вы карыснае і прыемнае захавалі ў сваім банку шчаслівых момантаў.

У конкурсе будзе два пераможцы. Адзін атрымае прыз глядацкіх сімпатый – лепшага ў гэтай намінацыі вызначым праз галасаванне на нашым сайце rh.by.

Другога чакае Гран-пры – менавіта яго здымак упрыгожыць штогадовы фірменны каляндар “Рэгіянальнай газеты”. Гэтага пераможцу вызначаць работнікі “Рэгіянальнай газеты”.

А ў дадатак абодва пераможцы атрымаюць у падарунак ад рэдакцыі смартфоны.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы з усяго рэгіёна ад 7 да 26 кастрычніка. 26 мы і размесцім на нашым сайце галасаванне за прыз глядацкіх сімпатый. 31 кастрычніка мы абвесцім пераможцаў конкурсу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Выберы, хто атрымае бясплатныя шашлыкі на дзесяць чалавек ад банкетнай залы “Глушэц”

У кожнай чалавека, які любіць гатаваць, ёсць свае фірменныя рэцэпты і кухонныя сакрэты. Зразумела, што не кожны будзе выдаваць іх. Аднак шэсць чалавек не пабаяліся выдаць сакрэты прыгатавання любімых страў, таму даслалі рэцэпты на конкурс “Кулінарны сакваяжык”.

Першым быў **Уладзімір Галаўко**. Ён раскрыў таямніцу шашлыкоў, якія не падгараюць на вуглях. Аказваецца, што дзякуючы чатыром лыжкам алею на два кілаграмы свініны можна захаваць мяса ад падгарання. Так яно стане больш сакавітым і смачным.

**Ілона Сцебурака** знайшла спосаб, чым карміць дзяцей, каб яны папрасілі дабаўкі. Рэцэпт яе тваражных пончыкаў дапаможа не толькі смачна і карысна накарміць дзяцей, аднак і зэканоміць час гаспадыні.

Валожынка **Вікторыя Дударовіч** не любіць аднастайных страў, таму заўсёды ў пошуках новага. Яна падзялілася рэцэптам індыйскага далу з рысам.

Сям'я **Ільюшонак**, каб назапасіцца вітамінамі на зіму, гатуе стравы з яблыкамі. Каб яны не былі аднастайнымі, жанчына эксперыментуе, шукае новыя рэцэпты. Нам Кацярына даслала рэцэпт яблычнага пірага з безэ.

**Алёна Емяльяненка** разам з рэцэптам прыклала цікавую гісторыю пра тое, на якія хітрыкі ідзе, каб накарміць сям'ю карыснымі стравамі. Жанчына даслала рэцэпт тваражнай запяканкі.

Для тых, хто імкнецца ўсё паспець, аднак пры гэтым не адчуваць сябе стомленым і змучаным, прыйдзецца даспадобы рэцэпт універсальнага піражка ад **Ніны Садоўскай**. Для начынкі можна выкарыстоўваць яблыкі з ягадамі, грыбы, абсмажаныя з цыбуляй.

Кожны з удзельнікаў мае магчымасць трапіць на бясплатныя шашлыкі на дзесяць чалавек у банкетную залу “Глушэц”. Аднак, хто стане пераможцам, выбіраць табе, шаноўны чытач.

Галасаванне на сайце будзе доўжыцца да 13 кастрычніка. Вынікі будуць на сайце ў пятніцу, 14 кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

РЭПЕРТУАР НА КАСТРЫЧНІК

**“Кот у ботах”** *Г. Уладычына* (казка-прыгода, рус.)
9 кастрычніка – у 12:00

**“Маленькая гісторыя”** *Н. Гернэт* (музычная казка, рус.)
16 кастрычніка – у 12:00

**Гастролі Мікалаеўскага дзяржаўнага тэатра лялек у рамках міжнароднай творчай акцыі “Тэатры свету – дзецям”**
**Ад 23 да 25 кастрычніка “Прыгоды Чыпаліна”** *З.Сеарабракова* (рус.)
23 кастрычніка – у 12:00

**“Казкі з куфэрка”** *А. Жугжда* (спектакль-імправізацыя)
30 кастрычніка – у 12:00

Чакаем Вас, шаноўныя гледачы, па адрасе: г. Маладзечна, вул. **Драздовіча, 5-в**.

Тэл. (80176) **75-36-73, 76-84-27.**



УНП 600136804

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 4 | | | 7 | | | 1 | |
| | 1 | | | | 2 | | | |
| | | 5 | | 3 | | | | 7 |
| 2 | | 1 | | | 4 | 9 | | |
| | | | | | | | | |
| | | 3 | 8 | | | 6 | | 4 |
| 7 | | | | 8 | | 4 | | |
| | | | 4 | | | | 5 | |
| | 3 | | | 6 | | | 9 | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ГАРАСКОП
7-13 КАСТРЫЧНІКА


**Авен.** Калі што ў вас і не заладзіцца, то паласа гэта хутка пройдзе. Трэба, каб у вас была ўстаноўка, што ўсё будзе добра. Аказвайце знакі ўвагі блізкім людзям, часцей усміхайцеся, спявайце пры выкананні манатоннай работы – карацей, жывіце жыццём, поўным шчасця.


**Цялец.** Дазвольце лёсу самастойна расставіць прыярытэты, ён ведае, што вам у першую чаргу трэба.


**Блізняты.** Акружыце сябе ўсім, што вы любіце. Ці то гэта сям'я, жывёлы, расліны, хобі – што заўгодна. Ваш дом – ваша сховішча.


**Рак.** Калі вы ўжо моцна стаміліся, то плануйце адпачынак, усё добра прадумайце і кожны дзень напаўняйце сябе радасцю ад прадчування непаўторнага.


**Леў.** Радуйцеся жыццю і таму, як лёгка і спрыяльна развіваюцца падзеі вакол вас. Усё складваецца так, як вы хацелі.


**Дзева.** Вы будзеце змагацца з цяжкасцямі. І першая, яна ж і галоўная, – лянота. Калі вы пераслііце яе і справіцеся з дрэнным настроем, то вас чакае поспех.


**Шалі.** Дазвольце усяму адбывацца так, як адбываецца, адпусціце ўсё на волю лёсу. Бо самім змяніць вам наўрад ці ўдасца, а так яно выйдзе нашмат лепш.


**Скарпіён.** Не заганяйце крыўды глыбока ў сябе, умейце дараваць. І тады жыццё будзе расквечанае рознымі колерамі вясёлкі, вам не прыйдзецца звяртацца па дапамогу да доктара.


**Стралец.** Цяпер вас лёгка пакрыўдзіць. Праявіце мудрасць – успрымайце ўсе падзеі, як урокі жыцця, якія неабходна вывучыць, асвоіць і выкарыстоўваць у далейшым. Бо не толькі ў радасці пазнаецца наш сапраўдны свет.


**Казярог.** Дапамагаючы іншым, вы зможаце займець мір і шчасце, гармонію ва ўласнай душы. Шлях дабрачыннасці прывядзе да прасвятлення. Вам прыйдзецца ўясніць гэту мудрасць і ўвасобіць яе ў жыццё.


**Вадалей.** Не расслабляйцеся. І памятайце: вы можаце дасягнуць усяго, калі будзеце да гэтага імкнуцца.


**Рыбы.** Вы шмат працавалі, лёс дае перадышку, каб прыйсці ў сябе. Займіцеся цяпер вывучэннем новых сфер дзейнасці, самапазнаннем. І нікому не давайце ніякіх абяцанняў

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by



## ● НАДВОР'Е

## 8 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +11 | | +6 / +10 | | +7 / +8 | | +4 / +7 | |
| | 739 | ↙ 3 | 741 | ↙ 3 | 745 | ↙ 5 | 747 | ← 6 |
| Вільня | +9 / +7 | | +11 / +16 | | +7 / +12 | | +3 / +5 | |
| | 749 | ↙ 6 | 752 | ↙ 4 | 756 | ↙ 5 | 753 | ← 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.29
Захад 18.30
Даўжыня дня 11.01

Усход 14.31
Захад 22.52
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +1,3 °С у 1991 годзе
Максімальная тэмпература + 26,4 °С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,4 мм у 1985 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Колькі набярэцца прычын зарэгістраваць свае адносіны, а не сужытнічаць. Лічым і шукаем перавагі законнага шлюбу у наступным нумары разам.



*Шмат*
*• фота*
*• відэа*
*• навінаў*
*шукайце штодзень на сайце "РГ"*
Rh.by

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы** Rh.by **ці ў суполках газеты ў сацсетках**

В ok f

**Выберы, хто атрымае бясплатныя шашлыкі на дзесяць чалавек ад банкетнай залы "Глушэц"**

А мне спадабаўся рэцэпт тварожных пончыкаў. Спрабавала гатаваць такія - нерэальна смачныя. *Вера.*

**Конкурс "Кулінарны саквояжык": вы падумаеце, што елі пірог з ананасамі, а на самой справе…**

Дзякуй за рэцэпт. Вельмі проста і зручна. *Анюта.*

**Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі (Частка 1)**

Аднак! Узрадавалі! Даўно не чытаў з такой цікавасцю. Да некаторых месцаў (датаў) вяртаўся некалькі разоў. І яшчэ раз перачытаю. Можа, штосьці прапусціў. Колькі разоў праязджаў міма Валожына, а сам я з Ліды, ведаў пра багатую гісторыю гэтага месца, але толькі дзякуючы вам даведаўся так падрабязна! Буду з нецярпеннем чакаць працягу. Здароўя і поспехаў вам. З павагай, ***Гееў Андрэй Алегавіч,*** Ліда – Чыкага.

**Рэчы як людзі. Пад замкам пачынаюць псавацца і смярдзець… (Фота)**

Харошы спектакль. Часцей бы прыязджалі да нас на гастролі. *Іна.*

**Адмоўцеся ад вінілавых шпалераў, мэблі з ДСП – рамонт у кухні экалагічна**

Вельмі слушныя парады: і наконт шпалераў, і наконт фарбаў, і тых матэрыялаў, з якіх трэба заказваць кухні.Усё ж трэба ведаць, тады і здароўе будзе, і радасць у доме. Дзякуй аўтару. ***Люба.***

**Пажылі тры дні ў шлюбе – і вырашылі развесціся. Чаму маладзечанцы скасоўваюць шлюб**

Я развялася са сваім першым мужам і цяпер шчаслiва жыву ў другім. Але гэта не таму, што мне так пашанцавала, гэта таму, што я таксама стала іншай. Я не прад'яўляю цяпер мужу ніякіх прэтэнзій, а менавіта яны становяцца разбуральнікам вашай сям'і, добра стаўлюся да яго захапленняў і жаданняў, цаню не толькі свой час, але і яго. І памятайце: ніхто нікому не павінны. З цеплынёй у голасе гаварыце, што трэба, і ўсё будзе зроблена. ***Мара.***

**Выйграй планшэт за выдатную вучобу: "РГ" узнагародзіла пераможцу першага туру конкурсу (Фота)**

Жадаю дзяўчынцы выйграць галоўны прыз! ***Жанна.***

**Памёр былы прэзідэнт Ізраіля, ураджэнец Вішнева на Валожыншчыне Шымон Перэс**

Ён быў на штучным дыханні, і ў Ізраілі былі ўпэўненыя, што яго будуць трымаць да яўрэйскага Новага года, які зусім хутка. Але ён памёр сам. Яго жонка памерла некалькі год таму. ***Наталля.***

**Жыхарка Смаргоншчыны засталася без машыны і грошай**

Чаму многія вядуцца на аб'явы ў інтэрнэце? Спачуваю жанчыне. ***Кацярына.***

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Зайшлі з сынам у магазін па малако і хлеб. Ён да шакаладак – то адну возьме, то другую. Я яму нягучна: "Пакладзі на месца і адыдзі ад вітрыны". Рэакцыі – нуль. Тады я гучна на ўвесь магазін кажу: "Малады чалавек, пакладзі ўсё на месца, а то адміністратара паклічу". У адназ на выхадзе выпала бутэлька піва з-за пазухі, другі падавіўся вінаградзінай, трэці пачаў вытрасаць цукеркі з кішэняў… І толькі мой сын працягваў спакойна выбіраць шакаладкі.

***

Чалавек у касцюме выглядае вельмі паспяховым. Пакуль ты не даведваешся, што ён працуе на чалавека, апранутага ў тэніску і джынсы.

***

Калі глядзіш серыялы на англійскай, складана засяроддзіцца на сюжэце. Ты ўвесь час думаеш, які разумны, раз глядзіш без перакладу.

*** *

Карэннае насельніцтва – гэта перадапошні заваёўнік.

***

Замяжовец забыў слова "пяць":

– Мне шэсць булачак, а адну не трэба.

***

Адна дзяўчына чакала-чакала прынца на белым кані…

А прыйшоў паштальён і прынёс ёй пенсію.

***

Кандуктар падыходзіць у аўтобусе да нецвярозага мужчыны:

– Малады чалавек, грошы за праезд?

Ён, расшпіліўшы кішэню:

– Ссыпайце сюды.

***

Ехала сёння ў аўтобусе. Заходзіць бабуля, саступаю ёй месца. А яна:

– Вось людзі, нават накрычаць няма на каго.

***

– Ты захварэў? Калі пойдзеш да доктара?

– Пасля.

– Доктар "пасля" завецца патолагаанатамам.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што значыць, пачаць новае жыццё?



**Іна Бауліна, бібліятэкарка:**

– Мне здаецца, што новае жыццё пачынаецца са з'яўленнем сям'і. А асабліва, з нараджэннем дзіцяці. У мяне, напрыклад, было так.



**Алена Бірукова, музыкант:**

– Новае жыццё – гэта якраз тое, што я цяпер пачынаю.



**Вольга Жарская, фатограф:**

– О! Вельмі актуальнае пытанне. І ў маёй жыццёвай сітуацыі я сама б хацела ведаць адказ на яго.



**Яўген Капусцін, работнік культуры:**

– Новае жыццё можа пачынацца па-рознаму. Хтосьці кіне курыць, хтосьці пачне займацца спортам, а хто-небудь раптам пачне вершы пісаць.



**Аляксей Міцянін, кіроўца:**

– Я не пачынаў новае жыццё. Мяне ўсё ў старым задавальняе пакуль.



**Марына Назарава, навучэнка:**

– Новае жыццё можа пачацца, напрыклад, з новым каханнем.



**Алена Пціцына, педагог:**

– Новае жыццё пачынаюць тыя, каго нешта не задавальняе ў старым. А ў мяне ўсё добра. Галоўнае, каб сям'я была здаровая.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№41 (1119) 7.10.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 970. Падпісана ў друк у 9.00 7.10.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.